Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 390.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 15 траўня 1998 г. | № 50 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Галадоўка скончылася шпіталем

**Гісторыя педагога з Асвейскай школы-інтэрната Верхнядзвінскага раёна, які на мінулым тыдні абвясціў галадоўку, атрымала сумны працяг — чалавека шпіталізавалі.**

Як мы ўжо паведамлялі, выхавацель школы-інтэрната Пётр Ермачкоў сваёй галадоўкай на працоўным месцы дамагаўся для школы дадатковага фінансавання. Ён цэлы тыдзень адмаўляўся прымаць ежу. На трэці дзень да галадоўкі выхавацеля далучыліся і дзеці, але Ермачкоў угаварыў вучняў яе спыніць. Падчас галадоўкі ў школу-інтэрнат неадназначна прыязджала раённае і абласное начальства з Верхнядзвінска і Віцебска, але выканаць патрабаванні Ермачкова чыноўнікі адмаўляліся, заяўляючы, што ў бюджэце няма сродкаў. Раённы пракурор нават спрабаваў абвінаваціць Пятра ў арганізацыі галадоўкі дзяцей.

Улады аказвалі ўціск і на дырэктара школы-інтэрната, каб той звольніў Ермачкова, але дырэктар адмовіўся, бо ў школе і так няма каму працаваць. Замест канкрэтнай дапамогі дзецям-сіротам раённыя ўлады арганізавалі праверку фінансавай дакументацыі школы-інтэрната. Тым часам дапамагчы Асвейскай школе ўзяліся актывісты Свабоднага прафсаюза, якія арганізавалі збор адзення, цацак, медыкаментаў і грошай для асвейскіх дзяцей-сіротаў.

**Язэп СІНІЦКІ**

### Загад № 33 у дзеянні

**Афіцэры КДБ пачалі выконваць загад свайго шэфа Уладзіміра Мацкевіча, задакументаваны ў чэкісцкай канцылярыі пад нумарам 33.**

Нагадаем, што гэтым загадам старшыня КДБ распарадзіўся папярэджваць беларускіх грамадзянаў *«аб недапушчальнасці незаконных дзеянняў»*. Не прайшло і месяца, як з'явіліся першыя «папярэджаныя».

У мінулую сераду загадчык аддзела ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці Уладзімір Шабан выклікаў да сябе маладафронтаўцаў Вадзіма Канапацкага і Віталя Умрэйку і прапанаваў ім падпісацца пад пратаколам, у якім значылася, што яны папярэджаныя аб наступным: *«Падобныя ўчынкі, калі не будуць зробленыя неабходныя высновы, могуць прывесці да злачынства і мець вынікам крымінальную адказнасць»*. Якія канкрэтна дзеянні Канапацкага і Умрэйкі меліся на ўвазе — не тлумачыцца. Хлопцы перакананыя, што гаворка ішла пра іхні ўдзел у акцыі падтрымкі палітычных вязняў Паўла Севярынца і Аляксея Шыдлоўскага, якая прайшла ў Мінску 2 траўня. Пасля шэсця Вадзім Канапацкі ў ліку іншых дзесяці чалавек быў затрыманы міліцыяй і атрымаў па рашэнні суда 10 сутак арышту за *«выкрыкванне антыпрэзідэнцкіх лозунгаў»*.

Дарэчы, пасля з'яўлення ў друку загада № 33 прэс-служба беларускіх чэкістаў запэўнівала грамадскасць, што злоўжываць «папярэджаннямі» яны не будуць. І ўвогуле, што гэта цалкам дэмакратычная практыка, што накіраваная яна не супраць палітычных апанентаў, а супраць патэнцыйных парушальнікаў крымінальнага кодэксу.

Цяпер даводзіцца адзначыць, што ўпершыню загад № 33 быў выкарыстаны ў дачыненні менавіта да апазіцыянераў. Прычым, маладых і актыўных — якраз Вадзім Канапацкі і Віталь Умрэйка былі заявіцелямі акцыі 2 траўня ў падтрымку палітвязняў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

### Мітрапаліт у званні генерала

**Архіепіскап Беластоцка-Гданьскі Сава абраны кіраўніком Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ён зойме пасаду, якая тры месяцы была вакантнай пасля смерці папярэдняга мітрапаліта Васіля.**

Такое рашэнне прыняў у аўторак Сінод праваслаўных епіскапаў Польшчы. Новы мітрапаліт Варшаўскі нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і на Падляшшы, скончыў Польскую акадэмію хрысціянскай тэалогіі і багаслоўскі факультэт Бялградскага ўніверсітэта. У пачатку 90-х гадоў архіепіскап Сава быў прызначаны галоўным праваслаўным капеланам Войска Польскага і атрымаў званне генерала. Адразу пасля свайго абрання на пасаду мітрапаліта Варшаўскага і ўсёй Польшчы архіепіскап Сава заявіў, што будзе падтрымліваць добрыя адносіны з кіраўніцтвам каталіцкага Касцёла і прадстаўнікамі іншых канфесіяў, а таксама клапаціцца аб стабільнасці і нармальным развіцці праваслаўя ў Польшчы.

Нагадаем, што Польская аўтакефальная праваслаўная царква мае больш за 300 прыходаў на ўсёй тэрыторыі краіны і налічвае прыкладна 700 тысячаў вернікаў, большасць з якіх складаюць беларусы Беласточчыны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Тры прэміі па 20 тысяч долараў

**Кіраўніцтва Еўрапейскага саюза і ўрад ЗША ўзнагародзілі прэміямі «За дасягненні ў галіне дэмакратыі» беларускія арганізацыі Хартыю-97 і Хельсінкскі камітэт, а таксама асабіста кіраўніка Цэнтра прававой абароны СМІ Беларускай асацыяцыі журналістаў Міхаіла Пастухова.**

Прэміі ў памеры 20 тысячаў долараў кожная ўручыць у панядзелак пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс, якая адначасова з'яўляецца прадстаўніком Еўрасаюза ў нашай краіне, паколькі сёлета менавіта Брытанія ўзначальвае ЕС.

На якія патрэбы пусцяць свае грошы Хельсінкскі камітэт і Міхаіл Пастухоў — пакуль невядома, а вось хартысты ўжо вырашылі, куды патрацяць «зялёныя». Як нам паведаміў прэс-сакратар Хартыі-97 Алег Бябенін, 10 тысячаў долараў пойдуць на падтрымку сем'яў палітзняволеных і пацярпелых ад рэжыму, 5 тысячаў — на ўмацаванне структураў Хартыі ў правінцыі і яшчэ 5 тысячаў — на інфармацыйную падтрымку арганізацыі, выданне праваабаронча бюлетэня і на прэміі журналістам, якія пішуць на тэму абароны правоў чалавека.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## У Брэсце ёсць усё. Нават уран

**Брэсцкія ўлады ламаюць галаву, як ліквідаваць два забруджаныя радыяцыяй участкі.**

Адзін з іх знаходзіцца на тэрыторыі чыгуначнага вузла «Заходні», а другі — у цэнтры Брэста, у раёне вуліцы Маскоўскай і парку Свабоды. Мэр Брэста Генадзь Масько ў размове са мной сказаў, што небяспечныя зоны агароджаныя, але іх ніхто не ахоўвае. Значыць, яны даступныя для асабліва цікаўных.

Гэтыя радыяцыйна забруджаныя ўчасткі з'явіліся ў Брэсце задоўга да чарнобыльскай катастрофы. Пачынаючы з 50-х гадоў Савецкі Саюз увозіў з краінаў Усходняй Еўропы жывую ўранавую руду, якую ў Брэсце салдаты рыдлёўкамі перагружалі з вагона ў вагон. Далей груз накіроўваўся на расійскія абагачальныя прадпрыемствы. Значная колькасць уранавай руды аказалася рассыпанай уздоўж чыгункі. Доўгі час жыхары Брэста нават не падазравалі, што жывуць побач з радыяцыяй, бо аб'екты былі засакрэчаныя. У 1991 г. украінскія спецыялісты правялі даследаванне небяспечных участкаў. Аказалася, што на гэтых пляцоўках аб'ём грунту, забруджанага радыем-226 і уранам, складае больш за 21 тысячу кубоў. Радыенукліды праніклі ў глебу на глыбіню да 1,6 метра. Адзін з радыеактыўных участкаў знаходзіцца прыкладна ў 800 метрах ад гарадскога водазабору. Украінскія спецыялісты знайшлі ў грунтовых водах палоній-210, канцэнтрацыя якога ў 5 разоў перавышае дапушчальны ўзровень.

Цяпер радыяцыйную сітуацыю на абодвух уранавых участках у Брэсце даследуюць спецыялісты з аб'яднання «Белгеалогія». Як паведаміў мне начальнік радыеэкалагічнай партыі «Белгеалогіі» Васіль Лосіч, спецыялісты дэталёва вывучаюць, на якую глыбіню ў глебу пранікла радыяцыя і што ўтрымлівае вада. Першыя вынікі даследаванняў чакаюцца толькі напрыканцы траўня. Па словах В.Лосіча, распачаць рэкультывацыю глебы можна недзе ў верасні. Пакуль што не вырашана канчаткова, ці вывезуць радыяцыйную глебу (яна лічыцца радыеактыўнымі адходамі) у 30-кіламетровую чарнобыльскую зону, або яе давядзецца схаваць у магільніках дзе-небудзь у Брэсцкай вобласці. Перамяшчэнне радыяцыйных адходаў патрабуе вялікіх фінансавых выдаткаў і спецыяльнай тэхнікі. Што да фінансаў, то мэр Брэста пакуль не можа нават прыблізна сказаць, колькі сродкаў спатрэбіцца для рэкультывацыі забруджаных участкаў.

Мэр Генадзь Масько лічыць, што ўранавыя пляцоўкі *«не ўяўляюць вялікай небяспекі»*. На маё пытанне, ці тлумачыцца гараджанам хоць па мясцовым радыё іх «малая» небяспека, мэр адказаў коратка: *«Гэта не вашыя пытанні»*. Гаварыць пра ўзроўні радыяцыі ён таксама не палічыў патрэбным. Прадстаўнік Брэсцкага гарадскога камітэта па экалогіі Алег Жамчужны наогул адмовіўся гаварыць на гэтую тэму, заявіўшы, што на спецыяльнай нарадзе ў міністэрстве па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы начальства забараніла даваць прэсе інфармацыю пра радыяцыю ў Брэсце, каб *«не бударажыць грамадскасць»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**КАДРЫ** Надакучыла трымаць калгасы




## Украінцам трэба мяжа

*А Мясніковічу — цукар*

Сустракаючыся з кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта М.Мясніковічам, пасол Украіны ў Беларусі Анатоль Дронь абмеркаваў праблемы паскарэння ратыфікацыі дагавора аб дзяржаўнай мяжы.

Як паведамілі ў МЗС Украіны, украінскі бок выказаў меркаванне, што ўступленне дагавора ў сілу будзе адлавядаць інтарэсам абедзвюх дзяржаваў і атмасферы ўзаемаразумення ў Еўропе. Канстатавалася, што прыярытэтам цяперашніх адносінаў паміж дзвюма краінамі з'яўляецца выкананне ранейшых дамоўленасцяў.

Акрамя таго, абодва бакі выказалі зацікаўленасць у нарошчванні таваразвароту паміж дзвюма дзяржавамі, павялічыўшы ўвоз з Украіны ў Беларусь цукру, алею, збожжа і іншых прадуктаў харчавання.

## Швейцарыя хоча сябраваць з Беларуссю, але...

Адносіны паміж Беларуссю і Швейцарыяй не вызначаюцца інтэнсіўнасцю і наяўнасцю прагрэсу, лічыць начальнік аддзела палітычных зносін Дэпартамента замежных справаў Швейцарыі Франц фон Дайнікен.

Гэтае меркаванне ён выказаў падчас сустрэчы з беларускімі журналістамі на мінулым тыдні ў Берне. Сп.Дайнікен адзначыў, што паміж дзвюма краінамі няма істотных праблемаў у палітычных зносінах, аднак эканамічнае супрацоўніцтва пакідае жадаць лепшага і яго патэнцыял далёка не вычарпаны. Па словах высокапастаўленага дыпламата, негатыўнае ўражанне на шматлікіх швейцарцаў зрабіў рэферэндум 1996 года. Калі б у Беларусі існавалі стабільныя палітычныя і эканамічныя ўмовы, Швейцарыя, як заўважыў сп.Дайнікен, інвеставала б у беларускую эканоміку больш актыўна; дзелавыя колы Швейцарыі хочуць быць упэўненыя ў тым, што эканамічныя рэформы ў Беларусі носяць пастаянны і незваротны характар.

*Экалогія*

## «Еўропа — наш агульны дом»

У Мінску плануецца правесці міжнародную экалагічную канферэнцыю з серыі «Еўропа — наш агульны дом» па праблемах прадухілення катастрофы ў Балтыйскім і Паўночным морах. На іх дне з часоў Другой сусветнай вайны ляжыць вялікая колькасць атрутных рэчываў, і эксперты прагназуюць, што ў 2002—2005 г. можа пачацца сапраўднае бедства.

*БелаПАН*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Антончыка не бяруць нават грузчыкам

**Былы дэпутат Вярхоўнага Савета Сяргей Антончык паспрабаваў уладкавацца рабочым на Мінскі трактарны завод, але атрымаў адмову. Вядомага апазіцыянера не ўзялі нават грузчыкам у чыгуначны цэх, дзе самая брудная праца і мізэрная зарплата. Па словах Антончыка, у аддзеле кадраў МТЗ яму шчыра заявілі: «Хіба вы не ведаеце палітычнага становішча? Вас загадана ні ў якой якасці на працу не браць. Загад прыйшоў зверху».**



Сяргей Антончык.

Славуты барацьбіт з карупцыяй Сяргей Антончык у 1996 годзе быў звольнены «па скарачэнні штатаў» з Мінскага аб'яднання БелВАР, дзе ён адпрацаваў 17 гадоў гальванікам. Апошні час Антончык быў беспрацоўным і вось цяпер вырашыў уладкавацца на трактарным заводзе. Былы дэпутат прапанаваў сябе ў якасці гальваніка, электрыка, свідравальшчыка, але яму адказалі ў аддзеле кадраў, што попыту на гэтыя прафесіі на трактарным няма. Затое знайшлася вакансія слесара-зборшчыка ў корпусе зборкі трактароў. Каб яе заняць, трэба было прайсці стажыроўку. Антончык пагадзіўся стаць вучнем слесара-зборшчыка, але і тут яго чакала расчараванне. 5 траўня, калі ён ужо прайшоў медыцынскі агляд і інструктаж па тэхніцы бяспекі, кіраўнік аддзела кадраў Кушмар паведаміў Антончыку, што месца ўжо занятае і ў яговых паслугах няма патрэбы. Не супакоіўшыся, былы дэпутат сам знайшоў вакансію грузчыка ў чыгуначным цэху. І вось тады, па яговых словах, ён і пачуў у аддзеле кадраў шчырыя словы наконт «палітычнага становішча» і «загаду зверху».

Аднак у аддзеле кадраў сцвярджаюць, што нічога падобнага Антончыку не гаварылі. А чаму не ўзялі на працу? Аказваецца, Антончык сам вінаваты. Маўляў, ён вельмі доўга праходзіў медагляд, а месца вучня слесара-зборшчыка чакаць не будзе — узялі іншага чалавека. А што тычыцца «пасады» грузчыка, дык Антончык і тут даў маху. *«Прынёс паперу з невядома чыім подпісам замест рэзалюцыі начальніка цэха... Дык ці можна ж было яму даваць?»* — кажа начальнік аддзела кадраў Яўген Кушмар. А ўвогуле, калі генеральны дырэктар МТЗ дасць загад працаўладкаваць Антончыка грузчыкам, то ён, Кушмар, будзе не супраць.

Дарэчы, мы запыталі Антончыка, чаму ён так упарта спрабуе ўладкавацца менавіта на дзяржаўнае прадпрыемства. *«Я рабочы, і маё месца ля станка побач з рабочымі,* — адказаў былы дэпутат. — *А займацца кабінетнай палітыкай ці палітычным бізнесам, як дэпутаты 13-га склікання, я не збіраюся».* Зараз Антончык «штурмуе» аддзел кадраў іншага буйнога прадпрыемства ў Мінску.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# За што сядзелі?

**Суд Цэнтральнага раёна Мінска спыніў справу супраць лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Народная Грамада Мікалая Статкевіча.**

Нагадаем: супрацоўнікі міліцыі абвінавачвалі М.Статкевіча ў тым, што на Дзень працы 1 траўня калона дэманстрантаў, на чале якой ішоў лідэр сацыял-дэмакратаў, адхілілася ад маршруту, парушыла рух грамадскага транспарту, а таксама скандзіравала антыпрэзідэнцкія лозунгі. (Паказальна, што міліцэйскую позву Мікалаю Статкевічу ўручылі яшчэ да пачатку дэманстрацыі).

12 траўня суд прызнаў, што падставаў для далейшага расследавання справы і пакарання М.Статкевіча няма. Аднак адвакат Вера Страмкоўская звяртае ўвагу, што парушэнне закона ў гэтым выпадку дапусцілі супрацоўнікі міліцыі, калі неабгрунтавана затрымалі каля 10 удзельнікаў шэсця, у тым ліку і М.Статкевіча, які правёў у спецпрыёмніку-размеркавальніку трое сутак.

*БелаПАН*

*P.S. На наступны дзень у судзе Маскоўскага раёна быў апраўданы таксама лідэр Беларускага згуртавання вайскоўцаў Алесь Станкевіч, які за ўдзел у першамайскай дэманстрацыі адседзеў трое сутак разам з іншымі грамадоўцамі. Суддзя Жана Лявіцкая вырашыла, што Станкевіч быў затрыманы беспадстаўна.*

# З міліцыі – у дэканат. І за дзверы

**З III курса геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта адлічаны студэнт Валерый Каробчыц.**

25 красавіка 1998 года падчас Чарнобыльскага шляху Валерый быў затрыманы невядомымі людзьмі, якія без прад'яўлення якіх-небудзь дакументаў даставілі яго ў міліцыю, дзе хлопец правёў каля пяці гадзін. Неўзабаве ў дэканаце факультэта з ім правялі гутарку наконт яговых палітычных перакананняў, а праз некалькі дзён быў падпісаны загад аб адлічэнні В.Каробчыца з фармулёўкай «за акадэмічную запазычанасць».

Як патлумачыў дэкан геафака Расціслаў Жмайдзяк, за студэнтам яшчэ з зімовай сесіі лічыўся адзін нездадзены залік. Варта адзначыць, што ў даўжніках на геафаку лічыўся не адзін Валерый Каробчыц, аднак «за непаспяховасць» выключылі толькі яго.

*БелаПАН*

# Правы чалавека для эпісталярнага жанру

**Сямікласнік Генадзь Козел з мінскай сярэдняй школы № 1 стаў пераможцам конкурсу сачыненняў на тэму *«Я пішу сябру, каб расказаць яму пра тое, што такое ў маім уяўленні правы чалавека».***

Конкурс праводзілі Рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта» і прафсаюз работнікаў сувязі. Адна дзяржаўная газета, якая рэкламавала гэтую акцыю, паабяцала надрукаваць сачыненне пераможцы, прытым, без купюраў. Як паведамілі нам у «Белпошце», сачыненне пакуль не апублікаванае, яго накіравалі ў Берн (Швейцарыя) для ўдзелу ў міжнародным эпісталярным конкурсе, які праводзіць Сусветны паштовы саюз.

Тым часам Генадзь Козел ужо атрымаў першыя ўзнагароды. «Белпошта» ўручыла яму мільён рублёў, фотаальбом і набор паштовых марак. Цяпер ён спадзяецца на поспех у Берне.

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

# Французы дапамогуць маладым

**Сёння ў Мінск з Францыі прыбывае дэлегацыя спецыялістаў у галіне маладзёжнай палітыкі.**

У складзе дэлегацыі — адказны супрацоўнік Інстытута маладзёжных калектываў Эрык Бушан, прэзідэнт таварыства па барацьбе з таксіканіяй П'ер Паламені і спецыяльны дэлегат ад міністэрства моладзі і спорту Францыі Жэрар Анго. Французскія госці сустрэнуцца з прадстаўнікамі Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА і шэрагу маладзёжных арганізацыяў у Мінску, Гомелі і Светлагорску. Апрача таго, гасцей чакае культурная праграма: для іх падрыхтаваны візіт у Маладзёжны тэатр эстрады і чамусьці ў цырк.

*БелаПАН*

# «Свет пасля Чарнобыля»

**Сёння ў Варшаве распачынае працу IV міжнародны кангрэс «Свет пасля Чарнобыля».**

На працягу трох дзён удзельнікі будуць абмяркоўваць галоўную тэму — *«Навакольнае асяроддзе, здароўе, правы чалавека, адказнасць дзяржавы»*. Пры гэтым выдзяляецца асобная праблема, датычная нашай краіны: *«Чарнобыльская трагедыя Беларусі ва ўмовах дыктатарскай улады»*.

Арганізатарамі кангрэса выступаюць Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», агульнагерманская асацыяцыя чарнобыльскіх ініцыятываў «Дзецям Чарнобыля», міжнародны савет «Будучыня — дзецям Чарнобыля» ў супрацоўніцтве з іншымі грамадскімі ініцыятывамі Беларусі, еўрапейскіх краінаў, ЗША і Канады. Беларусь будуць прадстаўляць каля 50 удзельнікаў.

Арганізатары імкнуцца прыцягнуць увагу шырокай міжнароднай грамадскасці да таго, як чарнобыльская катастрофа паўплывала на экалагічныя сістэмы і здароўе людзей, тым больш што глыбінныя праявы трагедыі становяцца відавочнымі толькі цяпер, праз 12 гадоў. Асаблівы акцэнт будзе зроблены на дзеяннях беларускіх уладаў, якія, на думку экспертаў, пазбаўляюць ахвяраў Чарнобыля *«іх законных правоў на сацыяльную абарону і стварэнне незалежных ад дзяржавы праграмаў гуманітарнай дапамогі»*. Акрамя таго, ставіцца мэта ініцыяваць міжнародную салідарнасць з ахвярамі Чарнобыля і грамадзянскімі чарнобыльскімі ініцыятывамі ў абароне іх правоў і свабодаў; падтрымаць і пашырыць праграмы гуманітарнага супрацоўніцтва і дапамогі пацярпелым ад катастрофы.

Тым часам стала вядома, што ў пачатку траўня ўрад Ірландыі прыняў рашэнне выдзеліць 100 тысячаў фунтаў стэрлінгаў для працягу глабальнай чарнобыльскай акцыі, якую праводзіць сям'я былога міністра абароны Ірландыі Х'ю Ковені.

Мы расказвалі чытачам, як у кастрычніку мінулага года чатыры браты і сястра Ковені накіраваліся ў падарожжа вакол свету на сямейным парусніку «Залаты яблык». Ірландцы вырашылі зрабіць такі доўгі паход, каб яшчэ раз прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Грошы, сабраныя падчас падарожжа, вырашана было накіроўваць на працяг праграмаў гуманітарнай дапамогі беларускім дзецям, якія найбольш пацярпелі ад аварыі. На жаль, у лютым гэтага года ў сувязі з трагічнай гібеллю Х'ю Ковені дабрачынная падарожжа «Залатога яблыка» спынілася. І вось цяпер яно адновіцца дзякуючы добрай волі ірландцаў і падтрымцы ўрада гэтай краіны. Пасол Беларусі Уладзімір Шчасны накіраваў спецыяльны ліст па падзякі прэм'ер-міністру Ірландыі і ўсёй сям'і Ковені.

*БелаПАН*

# Хітрая статыстыка

**Сёння ў Брэсцкай вобласці налічваецца больш за 400 стратных прадпрыемстваў — трэць ад іх агульнай колькасці.**

У параўнанні з мінулым годам знізілася рэнтабельнасць ва ўсіх галінах. Хоць статыстыка адзначае рост прыбытку на прадпрыемствах прамысловасці, гандлю і сельскай гаспадаркі. Аднак рост дасягнуты пераважна за кошт звычайнага павышэння цэнаў.

*БелаПАН*

# Усім светам супраць брудных грошай

**Беларуская дэлегацыя возьме ўдзел у працы спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па наркотыках, якая пройдзе ў Нью-Йорку з 8 па 10 чэрвеня.**

Як паведамілі ў прадстаўніцтве ААН у Беларусі, барацьба з адмываннем грошай будзе прыярытэтным сярод шасці асноўных пытанняў парадку дня сесіі. Паводле звестак праграмы ААН па кантролі над наркатычнымі сродкамі (ЮНДКП), сёння толькі 30% дзяржаваў у свеце маюць эфектыўнае заканадаўства супраць брудных грошай. Чакаецца, што спецыяльная сесія выступіць з заклікам да ўсіх урадаў да 2003 года распрацаваць законы, накіраваныя на папярэджанне, выяўленне і праследаванне ў судовым парадку ўдзельнікаў злачынстваў, звязаных з адмываннем грошай. *«Мы выступаем з ініцыятывай аб адмене рэжыму сакрэтнасці ў банкаўскай сферы ва ўсім свеце, бо гэта неабходна для расследавання любога арганізаванага злачынства, а не толькі тых, што датычаць наркотыкаў»,* — сказаў выканаўчы дырэктар ЮНДКП Піна Арлачы.

*БелаПАН*

# Спекхард на Палессі

**Учора і сёння пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард падарожнічае па Брэсцкай вобласці.**

У праграме візіту амерыканскага дыпламата — сустрэчы з кіраўніцтвам Брэсцкай вобласці і Пінска. У прыватнасці, у Пінску ён азнаёміцца з працай сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства «КамСіл», якое спецыялізуецца на выпуску крэмніевых пласцінаў для электроннай прамысловасці. Запланаванае таксама спатканне з кардыналам Казімірам Свёнтэкам і прадстаўнікамі грамадскіх арганізацыяў Пінска.

Акрамя таго, як паведаміла інфармацыйная служба пасольства ЗША ў Мінску, сп. Спекхард наведае горад Любань, адна з новых вуліцаў якога будзе насіць імя выбітнага дзеяча габрэйскай абшчыны ў Беларусі рабіна Мошэ Файнштэйна.

*БелаПАН*

# Рабіны адкрылі браму

У аўторак Цэнтральная сінагога ў Беларусі і Мінская габрэйская абшчына праводзілі цырымонію «Адкрыцця брамы» на тэрыторыі будучага Цэнтра габрэйскай культуры ў сталіцы. У новым будынку будуць размешчаныя рэстаран нацыянальнай кухні, крамы кашэрных (чыстых паводле іудзейскага канону) прадуктаў і рэчаў рэлігійнага культу. У духоўным цэнтры чалавек любога ўзросту зможа вывучаць габрэйскую гісторыю, мову і традыцыі.

Згодна з традыцыяй, з нагоды ўрачыстасці з Ізраіля прывезены новы скрутак Торы — іудзейскай Кнігі Закона. Напісаная ад рукі на пергаменце спецыяльным пяром і тушшу, Тора заняла месца старадаўніх скруткаў, якія некалькі гадоў таму былі скрадзеныя з Цэнтральнай сінагогі, што на вул.Даймана ў Мінску. *«Урад Беларусі даў нам магчымасць распачаць тут больш грунтоўнае габрэйскае жыццё, і гэта вялікае свята для нашага народа ва ўсім свеце»,* — сказала Тамара Грузман — прадстаўнік дабрачыннага фонду Лаўдэра, на грошы якога будзе пабудаваны Цэнтр.

У свяце «Адкрыцця брамы» бралі ўдзел часовы павераны дзяржавы Ізраіль Цві Пеер, пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард, намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч, старшыня Камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Аляксандр Білык, шматлікія рабіны з Аўстрыі, Ізраіля, ЗША, Расіі і Паўднёвай Афрыкі, а таксама прадстаўнікі амбасадаў Германіі і Францыі, дабрачынных фондаў і грамадскіх арганізацыяў.

*БелаПАН*



**На здымку: рабіны гутараць з амерыканскім паслом Дэніэлам Спекхардам.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



*Сталіца*

## «Салёныя» батоны

У мінскіх крамах апошнім часам прадаюцца батоны досыць кепскай якасці. Як патлумачылі нам у Мінскхлебпраме, у вытворцаў белага хлеба цяпер няма маргарыну і цукру, таму цеста робяць толькі з солі, мукі, вады і дражджэй. Дэфіцыт цукру — не навіна. А дзе маргарын? Аказваецца, маргарынавыя заводы спыніліся з-за адсутнасці алею. Таму хлебазаводы, не маючы важных кампанентаў, і пякуць «салёныя» батоны. Праўда, на радасць пакупнікоў, гэтая прадукцыя крыху патаннела. Спецыялісты Мінскхлебпрама сцвярджаюць, што існуе пагроза спынення выпечкі булак, сушак і пернікаў. Усё па той жа прычыне.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Сувенір – рэліквія

На вуліцы Камуністычнай у Мінску стаіць крама «Народныя промыслы». На вітрыне красуецца традыцыйны беларускі народны сувенір — «Дом-музей І з'езда РСДРП». Вялікі такі, прыгожы.

З размовы з прадаўшчыцай даведаўся, што сувенір не прадаецца, бо вельмі патрэбны краме для рэкламы. Маўляў, калі іншы тавар паставіш на вітрыну — праз тыдзень псуецца: выгарае на сонцы, пакрываецца пылам. А «Дому-музею» ўжо нічога не зробіцца. Вось і стаіць ён з даўніх часоў, такіх даўніх, што ніхто ў краме і не памятае, калі яго ўпершыню на вітрыну выставілі. І з цягам часу набывае ўсё большы шарм. Пакупнікі цікавяцца, заходзяць у краму. Некаторыя кліенты нават жадаюць набыць рэліквію — але марна.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Піва ёсць. А дзе прыбіральні?

У Мінску навучыліся праводзіць святы. Па загаду гарадской адміністрацыі крамы і сталоўкі разгортваюць свае гандлёвыя кропкі ў цэнтры Мінска, а радасныя гараджане накідваюцца на піва з закускай.

Але пасля піва ўзнікае праблема, якую ў горадзе вырашыць куды цяжэй. Гэта візіт у прыбіральню. Прыбіральняў у Мінску не хапае. Як скончыцца свята — растуць чэргі побач з самымі папулярнымі ў Мінску домікамі. А што зробіш? Прырода бярэ сваё *(гл.здымак)*.

**Р.П.**

*Правінцыя*

# Рыбацкая карчма на ганку аблвыканкама

**Аргкамітэт другога агульнабеларускага фестывалю нацыянальных культур, які адбудзецца ў Гродне 22–24 траўня, праводзіць апошнія прыгатаванні, «падбівае бабкі».**

Кожная нацменшасць, як кажуць, атрымае на час фестывалю пэўную частку старога горада, дзе будуць створаны часовыя «нацыянальныя падворкі». Задачай арганізатараў было прыдумаць для іх сваю адметнасць. У цыганскім табары, напрыклад, збіраюцца каваць і прадаваць падковы — на шчасце, як сувенір. У якасці татарскай конніцы павінны выступіць вершнікі з Навагрудскай конна-спартыўнай школы. Карэйцы будуць запускаць паветраных змеяў у форме рыбы, дракона і нейкага пудзіла. Рускія пакажуць, як яны ўмеюць падымаць гіры; украінцы інсцэніруюць гульні запарожскіх казакоў; армяне пакатаюць дзяцей на осліку або поні з Гродзенскага заапарку і паведамяць навіны «армянскага радыё». У азербайджанцаў плануецца дэгустацыя азербайджанскага віна, якога беларусы даўно ўжо не бачылі, і песні Палада Бюль-Бюль-Аглы, якіх гэтак жа даўно не чулі. Малдаване прапануюць пачаставацца малдаўскім вінам, а немцы паназіраюць, хто хутчэй вып'е піва — праўда, мераць чамусьці будуць не куфлямі, а слоікамі.

Падзеяй фестывалю павінна стаць з'яўленне беларускіх грэкаў, якія пакажуць грэка-рымскую барацьбу. У адрозненне ад расійскіх уладаў, беларускія паранейшаму прыязна стаўяцца да сваіх суседзяў-латышоў. Латышскі падворак будзе размешчаны ў самым прывілеяваным месцы — на ганку абласной вертыкалі, пад вокнамі старшыні аблвыканкама, дзе будзе працаваць карчма «Дары мора» пад развешаным рыбацкім нератам.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Першае месца па несунах

**Ашмянскі мясакамбінат сёлета павялічыў выпуск каўбасных вырабаў. Гэта адразу выкарысталі заводскія злодзеі.**

За першыя 4 месяцы года з каўбасой за пазухай трапіўся 21 чалавек. Цікава, што за цэлы 1997 год з каўбасой трапілася толькі 29 несуноў. Сёлета тэмпы росту відавочныя, але прычыну адназначна ніхто сказаць не можа: ці то каўбасы стала больш, ці то людзі згаладнелі...

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Вязынка – цэнтр цвярозасці

**З 15 па 17 траўня ў лесе ля вёскі Вязынка Маладзечанскага раёна, на радзіме Янкі Купалы пройдзе незвычайнае мерапрыемства.**

Вязынка стане месцам правядзення IX Міжнароднага злёту цвярозасці, культуры і здароўя. Удзельнікам прапануецца шырокая праграма турысцка-спартыўных спаборніцтваў і творчых конкурсаў для дарослых і дзяцей. У рамках злёту пройдзе семінар: будуць абмяркоўвацца формы і метады арганізацыі клубаў, якія прапагандуюць духоўнае і фізічнае самаўдасканаленне людзей. Адбудзецца конкурс журналісцкіх матэрыялаў, фатаграфіяў і фільмаў на тэму «Здаровы лад жыцця і цвярозасць — стратэгія будучыні Беларусі».

Арганізатар злёту, сталічны клуб «Аптымаліст», запрасіў у Вязынку таксама актывістаў руху за здаровы лад жыцця з Балтыі, Расіі, Украіны і іншых краінаў.

*БелаПАН*



## Гомель рыхтуецца да блакады

**Гомельскі гарвыканкам зацвердзіў першую праграму імпартазамяшчэння.**

У яе распрацоўцы, апрача выканкама, бралі ўдзел 53 прамысловыя прадпрыемствы горада. Галоўная мэта праграмы — развіваць і стымуляваць эфектыўнае замяшчэнне імпарту айчыннымі таварамі. У гэтым працэсе гарвыканкам пакінуў сабе функцыю «вызначэння прыярытэтаў».

Адна з асноўных мэтаў праграмы — павышэнне эканамічнай бяспекі Гомеля. Пад гэтым гарвыканкам разумее «мінімальны набор тавараў і паслуг, неабходных для выжывання ва ўмовах эканамічнай блакады або іншых дзеянняў з боку замежных краінаў». Вось толькі пералік «проціблакаднай» прадукцыі пакуль не прыняты.

*БелаПАН*

## Гарэлка на халяву

**У Мастоўскім раёне неўзабаве могуць пачацца перабоі з гарэлкай.**

Рэч у тым, што мясцовы гандаль запазычыў вінным ды гарэлачным заводам Гродзенскай вобласці больш за 1 млрд. рублёў. Вось так: гарэлку прадалі, а грошы не вярнулі.

**С.М.**

## Адкуль бярэцца бульба

**Сёння сельскагаспадарчая вытворчасць фактычна трымаецца на падсобных гаспадарках. Без іх гараджанам проста не было б чаго есці.**

На сённяшні дзень асабістыя падсобныя гаспадаркі маюць 3,5 мільёна жыхароў Беларусі, і ў гэтым сектары выпрабляецца палова валавога прадукту сельскай гаспадаркі краіны. Загадчык сектара Беларускага НДІ эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу М.Антоненка паведаміў у інтэрв'ю БелаПАН, што асабістыя сялянскія гаспадаркі сёння даюць гарадам 50% мяса, 90% бульбы, 35% малака, смятаны і тварагу.

**М.Н.**

## Студэнт, шукай працу сам

### *У дзяржавы ёсць толькі бясплатная работа*

**Перад студэнтамі і навучэнцамі сёлета ізноў паўстае важная праблема — як падзарабіць у час летніх канікулаў. А знайсці сабе занятак у Беларусі вельмі няпроста.**

Дзяржаўны камітэт па справах моладзі стараецца дапамагчы, аднак праблема ўсё роўна застаецца. Як паведаміў на гэтым тыдні на паседжанні «круглага стала» першы намеснік старшыні дзяржкамітэта А.Нахаенка, мінулым летам былі часова працаўладкаваныя 13.375 студэнтаў і навучэнцаў, пераважная большасць з іх працавалі за мяжой — у Расіі, Украіне, Малдове, у далёкім замежжы. Але ж маладых людзей, якія жадаюць працаваць у вольны ад вучобы час, значна больш, прычым для многіх з іх дадатковы заробак проста неабходны.

Прадстаўнік дзяржкамітэта паведаміў, што ў прынцыпе праца для моладзі ў Беларусі ёсць, ёсць таксама і жаданне наймальнікаў, аднак... няма магчымасці аплаціць гэтую працу. Між тым, відавочна, што працаваць бясплатна, на добраахвотных пачатках, большасць нашых маладых людзей не хоча, дый не можа сабе гэтага дазволіць. Па словах А.Нахаенкі, ва ўрадзе цяпер разглядаецца дакумент аб ільготных крэдытах для наймальнікаў, якія даюць студэнтам працу ў летні перыяд. Аднак прыняцце такой пастановы — справа доўгая, і сёлета гэтае пытанне, хутчэй за ўсё, вырашана не будзе.

Так што, дарагі студэнт, клапаціся пра сябе сам!

**Магдалена НЕПАКАЙ**

*Кнігарня*

## «Паданне пра асветнікаў»

**Выдавецтва «Беларускі кнігазбор» выпусціла чарговую ўнікальную кнігу і ў наступны панядзелак ладзіць яе прэзентацыю.**

Гэты зборнік «Філаматы і філарэты» самі выдаўцы называюць «паданнем пра асветнікаў XIX стагоддзя». Прымеркаваны выхад кнігі да 200-годдзя Адама Міцкевіча, у ёй прадстаўленыя дзесяць слаўтых імёнаў людзей, якія ўдзельнічалі ў Таварыстве філаматаў і філарэтаў, што ўтварылася ўвосень 1817 г. у сценах Віленскага універсітэта. Побач з Адамам Міцкевічам паўстаюць ягоныя паплечнікі-аднадумцы Ян Чачот, Тамаш Зан, Ануфры Петрашкевіч, Міхал Рукевіч і інш.

Прэзентацыя кнігі адбудзецца 18 траўня ў будынку Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі (вул. Кірава, 14) а 18-й гадзіне. У вечарыне возьмуць удзел акадэмік Радзім Гарэцкі, народны паэт Ніл Гілевіч, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Тамаш Нягодзіш, вядомы пісьменнік і навукоўца Адам Мальдзіс, а таксама ўкладальнік кнігі Кастусь Цвірка. Арганізатары запрашаюць усіх зацікаўленых, уваход вольны.

**М.Н.**



ЧЕРНОБЫЛЬ

# Эти земли считать чистыми. Условно

**Так решил Совмин РБ своим постановлением, исключив ряд земельных площадей из категории «земли отчуждения» и переведя их в категории «хозяйственного пользования» и «ограниченного хозяйственного пользования».**

Это решение согласовано с минздравом и другими ответственными за здоровье и благополучие населения ведомствами, а также местными властями в Гомеле и Могилеве.

В Добрушском и Кормянском районах Гомельской области «радиационно безопасными», пригодными для хозяйственного использования объявляются 772 гектара, правда, с условием выполнения требований по организации работ на загрязненных радионуклидами территориях.

К ограниченному хозяйственному использованию предлагается почти 7,5 тыс. гектаров земель, ранее считавшихся «грязными» в Брагинском, Кормянском, Климовичском, Костюковичском, Краснопольском и Чечерском районах. Таким образом, «посевной клин» страны расширился настолько, насколько сжалась зона. Теперь остается ждать, когда в торговле появятся продукты с надписью: минздрав рекомендует условно чистое молоко, условно полезное для вашего здоровья.

А что, ведь не в Финляндии живем, где после того, как чернобыльский пепел выпал на оленьи пастбища, правительство провело полную утилизацию пострадавших животных и компенсировало потери бедных лапландских животноводов. Оленей до сих пор запрещено пасти в местах, где ягель впитывает в себя радионуклиды и передает их животным. Да и сами лапландцы, не имеющие понятия о переборах со снабжением, не горят желанием есть условно полезные бифштексы. Иное дело мы — хоть и едим все подряд, но постоянно чувствуем себя полуголодными.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Кто оскорбляет Лукашенко

Вадим КАЗНАЧЕЕВ

**Действия режима по отношению к акциям протеста нынешней весной приобрели несколько отличительных особенностей. Например, теперь власти считают своим долгом устроить «хапун» даже после санкционированного, прошедшего безо всяких инцидентов мероприятия. Но об этом следует говорить специально. Здесь же я хочу остановиться на другой особенности: демонстрантов стали преследовать просто за выкрикивание лозунгов.**

Формулировки *«выкрикивание антипрезидентских* (вариант — *«антиправительственных»*) *лозунгов»* или, еще почище, *«высказывание недовольства властью»* нередко фигурируют в милицейских протоколах и на судебных разбирательствах. Уже это само по себе как нельзя более выпукло выявляет тоталитарную сущность государства: под подобные определения без особых натяжек можно подвести вообще любое инакомыслие.

Популярные у столичной молодежи лозунги, которые и ставятся ей в вину, с правовой точки зрения никаким криминалом, конечно же, не являются. В этих лозунгах всего лишь высказывается невысокое мнение об интеллектуальных, нравственных и внешних данных главы государства. Да, нередко это делается в невежливой форме. Учитывая, что сам Лукашенко публично окатывает оппонентов потоками грязи, а важнейшими составляющими его политики являются ложь и грубая сила, — невежливая форма по отношению к этому человеку, на мой взгляд, вполне допустима. По этому поводу может быть и другое мнение — но в любом случае это вопрос из области морали, а никак не права. Однако даже если говорить об обвинениях в рамках нашей, с позволения сказать, правовой системы, то стоит отметить один интересный момент. Дело в том, что из уст противников режима далеко не всегда звучит конкретное указание на конкретную персоналию. И, разгоряченные служебным рвением, как раз сами правоохранительные (вернее, просто охранительные) органы и совершают то «преступление», которое инкриминируют своим согражданам.

Впрочем, это началось гораздо ранее нынешней весны. Вспомним, как в свое время прокуратура Беларуси постановила, что в опубликованной в газете СВАБОДА поэме «Лука Мудищев» речь идет не о комнибудь, а об Александре Лукашенко. Этот вывод целиком на совести сего многомудрого ведомства, т.к. в поэме никакой конкретной фамилии не значилось. Потом прокуратура пошла еще дальше, признав, что в стихотворении Славомира Адамовича «Убей президента» имеется в виду президент не чего-либо, а Республики Беларусь. О лозунгах, которые ставятся в вину демонстрантам, и говорить нечего: власти таким образом сами утверждают, что нелестными эпитетами награждается не какой-то неведомый Лука, а все тот же многострадальный диктатор. Российские антифашисты, задержанные в Минске после Чернобыльского шляха, рассказали мне, что инспектор столичной милиции вписал в протоколы лозунг, в котором приписал Лукашенко недостатки умственного развития. Этого лозунга россияне не выкрикивали. «Ничего более умного милиционер придумать не смог!» — сокрушался лидер Антифашистского молодежного действия. Хотя, возможно, инспектор просто нашел столь своеобразный способ высказать собственную затаенную позицию? Бог знает.



Когда провалы и отсутствие перспектив в экономике становятся всё более явственными, а ложь всё более очевидной, — всё больше и больше людей разочаровываются в Лукашенко. Коль скоро режим не может воспрепятствовать самому разочарованию, он стремится пресечь хотя бы его публичное высказывание. Вообще ненависть к сатире свойственна всякой диктатуре. В нашем случае это усиливается еще и тем, что для сатиры белорусский диктатор являет собой очень уж благодатный объект.

В воспоминаниях А.С.Пушкина есть эпизод: поэта вызвал начальник императорской охранки Бенкендорф и гневно сообщил, что в сатирических стихах Пушкина узнал себя граф Уваров. *«Вот ужасное, непозволительное место (читая): «И воровать уж не забуду казенные дрова!..» «Так, стало быть, Уваров воровал, когда подобную улику принял на себя!» Бенкендорф сердито улыбнулся и промычал: «Гм! да! сам виноват!»* Полтора века назад у начальника российских жандармов, которого в советские времена называли (и, в общем, заслуженно) не иначе как душителем свободы и мракобесом, хватило ума понять очевидное. У современных белорусских жандармов на это ума не хватает.

ДАГЕРРОТИП

Семен БУКЧИН

# «Твердая рука» в конце века

Молодой социолог Бернского университета горячо уверял меня, что приход Лукашенко к власти — это закономерное явление конца столетия.

— Поймите, в конце столетия, а уж тем более тысячелетия, люди невероятно растеряны, ими овладевает ощущение всеобщей, глобальной катастрофы, и они инстинктивно тянутся к сильной руке.

Эти речи звучали на террасе итальянского ресторанчика в самом центре Берна, где мы пили кофе, наслаждаясь теми самыми видами старого города, которые с удовольствием созерцал профессор Плейшнер из знаменитого телесериала.

— Что-то у вас, в Швейцарии, я не заметил этого тяготения к «сильной руке», — попытался я поддеть собеседника.

— Да вы почитайте нашу прессу! — буквально взвился Петер и тут же подсунул мне свежий номер «Трибюн де Женев».

А там немалая по объему статейка, где разъясняется, что самая распространенная идеология сегодня это не постмодернизм и прочие «постизмы», а «эндизм» (от английского *«end»* — «конец»). Все идет к концу. Не только столетие и тысячелетие, но и мораль, работа, семья, искусство, архитектура, наконец, сама история... Изложение этой новой идеологии *fin de siecle* венчал замечательный вывод: в Швейцарии слишком много демократии, слишком много диктуется рыночными условиями и пора уже проявить твердую политическую волю, чтобы защитить истинно швейцарские интересы.

На языке у меня уже крутилось что-то вроде того, что, мол, с жиру беситесь, но смолчал не только из деликатности. Пока Петер разъяснял мне, что такое «истинно швейцарские интересы», я припоминал, так сказать, истоки проблемы.

Началось, кажется, в 1989 г., после выхода знаменитой книги американского политолога Френсиса Фукуямы «Конец истории», в которой утверждалось, что XX век закончился вместе с холодной войной. Он был очень коротким: начался в 1914 г. (первая мировая) и завершился разрушением коммунистической системы. А вот XIX век был очень длинный — от Французской революции 1789 г. до первой мировой войны. Теория Фукуямы породила массу «эндизмов» самой разной масти: конец науки, конец литературы, короче, конец всех сфер жизни. Сегодня в разных странах выходят сотни философских, эссеистских, политологических и прочих книг, в названии которых стоит слово «Конец...»

Впрочем, нельзя утверждать, что буквально все интеллектуалы мира заняты предсказанием «конца жизни» в разных ее проявлениях. Настоящие интеллектуалы и аналитики, скорее, отмечают нарастание кризисных явлений, как скажем, Станислав Лем — в области информации. Знаменитый польский фантаст считает, что, несмотря на компьютеры и Интернет, сегодня человечество тонет в потоках информации, не имея возможности как следует ее освоить. Компьютеры сегодня работают в тысячи раз быстрее, чем человеческие мозги, поэтому возникает проблема правильных решений со стороны человека и шире — проблема взаимопонимания между людьми. «Эффект Вавилонской башни» может наступить уже в 2000 году, если компьютерные концерны не решат известную проблему датировки (в прессе уже немало писалось о том, что нынешние компьютеры выдают в качестве обозначения года только две последние цифры, что может привести к страшной путанице при смене тысячелетий).

Но если оставить в стороне рассуждения интеллектуалов, то нельзя не сказать об особой магии «конца века», вообще «конца чего-нибудь», желательнее помасштабнее, одолевающей простой народ. Народ любит символы, знаки, знамения, сочетания чисел и диковинных явлений... Это прежде всего относится к людям, всего опасающимся — несчастий, болезней, разных неприятностей...

— Ну вам-то, потомкам героического Вильгельма Телля, чего опасаться? — сказал я, когда мы вышли на эту тему. — Живете, как у Христа за пазухой.

Петер опять загорячился:

— Ну как же! Мы, швейцарцы, к примеру, очень боимся перенаселенности нашей маленькой страны. Все ведь к нам рвутся. Мы, конечно, демократы, но вы не представляете, как мы довольны, когда узнаем, что когонибудь выселяют из страны, — незаконного иммигранта или еще кого... Мы боимся преступности, роста цен... Боимся за нашу действительно очень хорошую жизнь. А что касается Вильгельма Телля, то он у нас вовсе не популярен. Это сегодня, так сказать, маргинальный тип нашей истории.

Вот тебе раз! Герой стольких преданий о борьбе швейцарцев с Габсбургами в средние века — маргинальный тип! А как же яблоко, собственноручно сбитое им стрелой с головы маленького сына? И знаменитая драма Шиллера?

Петер досадливо машет рукой:

— Это все легенды на темы нашей истории! Мы не столько им верим, сколько все тем же приметам, связанным с концом века. Конечно, можно утверждать, что только люди, которые ничего не понимают в современном мире, склонны к разным «таинственным» его объяснениям. И таких людей могут использовать определенные политические силы в своих целях. Отсюда и надежды на сильную политическую руку даже у нас, в Швейцарии.

— Ну ладно, — сказал я. — Вам есть что терять, за что опасаться. Но нам-то, в Беларуси? У нас и Чернобыль, и демократия, о которой в Швейцарии понятия не имеют, и уровень жизни...

Сказал последние слова и — осекся... А какой у нас, в самом деле, уровень жизни? Швейцарского мы никогда не знали. А вдруг еще хуже будет, чем нынче? Что тогда? Тогда, конечно, остается только верить в приметы, связанные с концом века, и желать «сильной батьковой руки».

Я заплатил за две чашки кофе восемь франков (чуть более пяти долларов), и мы побрели по набережной Ааре, каждый одолеваемый своими нелегкими думами. Петер, наверное, думал о том, как уберечь Швейцарию от перенаселенности в конце XX века. А я размышлял о любви белорусов к «сильной руке», почему-то проявившейся в этот же период.

# Конца света не будет

*Утверждает Папа Римский*

**К разочарованию последователей Нострадамуса и к радости скептиков, конца света пока не предвидится. Как пишет газета *Times*, об этом авторитетно заявил Папа Римский Иоанн Павел Второй.**

Разумеется, миру когда-то придет конец, но фиксированной даты нет и в Библии ее искать не следует, объяснил понтифик. Катастрофы, описанные в Книге Апокалипсиса — чума, землетрясения, огненные горы, — нельзя трактовать буквально, скорее это символическое напоминание о том, что человек слаб и хрупок перед верховной властью Бога.

Папа Римский, в частности, хотел успокоить итальянцев, которые восприняли серию землетрясений в провинции Умбрия как приближение Судного Дня. В сентябре прошлого года подземные толчки частично разрушили базилику Святого Франциска в Ассизах, погибло 11 человек. Кроме того, ходят упорные слухи, что в 2000 году проснется вулкан Везувий, который разрушил Помпею в 79 году нашей эры. Разумеется, католическая церковь сочла своим долгом развеять суеверия. Но, по свидетельству книготорговцев, книга предсказаний Нострадамуса на прилавках не залеживается.

СБЫЛАСЬ АМЕРИКАНСКАЯ МЕЧТА
«СУПЕР-ЛЕТО» В СУПЕР-СТРАНЕ!
**Америка — родина компьютеров и демократии, самая богатая и самая свободная в мире страна** заслуживает того, чтобы её увидеть. Тем более в дни каникул, по программе **«Супер-лето»** Центра обучения языку в США.
Программа рассчитана на школьников от 14 лет. Срок программы - 3 недели.
Она включает:
- отдых на берегу Великих озёр,
- проживание в семьях,
- общение со сверстниками из разных стран мира,
- ненавязчивое изучение языка с любого уровня (3 часа в день),
- погружение в языковую среду по программе Living Language Lab,
- развлекательная программа, спорт и экскурсии,
- внимательный персонал 24 часа в сутки.




Только $ 1700 плюс авиабилеты — и Америка у ног Ваших детей.
**Подарите своим детям АМЕРИКУ!**
Минск, ул.Короля,23,к.13
тел. (017) 226-56-73, 220-86-71

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

